*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 48(104) ◈ 2 снежня 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)





Беларуская мова ўсё больш уваходзіць ва ўжытак педагогаў. Шмат увагі надаюць ёй і настаўнікі Перхавіцкай сярэдняй школы Баранавіцкага раёна. Гэта не дзіва, бо працуе тут інтэрнацыянальны калектыў. Так, Таццяне Міхеевай (на здымку на пярэднім плане), выпускніцы Ніжагародскага універсітэта дапамагае авалодаць мовай калега-настаўніца Яніна Койпаш. І хоць сама Яніна — полька, але беларускую мову ведае добра.

**Фота Эдуарда КАБЯКА. Белінфарм.**

## ПОСТУП ТЫДНЯ



27—29 ЛІСТАПАДА АДБЫЛОСЯ СВЯТКАВАННЕ 72-ОЙ ГАДАВІНЫ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ, ЯКОЕ ВЫБУХНУЛА 21 ЛІСТАПАДА 1920 ГОДА. У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА, ПРЫСВЕЧАНАЯ ПАЎСТАННЮ, І ПРАЙШЛА ВЕЧАРЫНА. У ПРАВАСЛАЎНЫХ ХРАМАХ У ГОНАР ПАЎСТАНЦАЎ АДБЫЛІСЯ НАБАЖЭНСТВЫ. АСНОЎНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПРАВЕДЗЕНЫ Ў СЛУЦКУ І СЕМЕЖАВЕ.

*У МЕНСКУ ПРАЙШЛІ ДНІ ПОЛЬСКАГА КІНО, якія арганізавала пасольства Польшчы сумесна з менскім прадпрыемствам «Кінавідэапракат».*

ПАЧАЎСЯ ТРАДЫЦЫЙНЫ МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦТВАЎ «БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ», які праводзіцца ўжо ў дзевятнаццаты раз.

*У БРЭСЦЕ ПРАЙШОЎ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ МАЛАДЗЁЖНАЙ МУЗЫКІ «БЕРАСЦЕЦКІ РОК-КІРМАШ-92», у якім прынялі ўдзел гурты «Уліс», «Крама», «Мроя», «Новае неба», «Мясцовы час», «Вакзал», а таксама госці з Польшчы і Германіі.*

ПАЭТУ УЛАДЗІМІРУ ЖЫЛКУ — АХВЯРЫ СТАЛІНІЗМУ — НА ЯГО РАДЗІМЕ Ў ВЕСЦЫ МАКАШЫ НА НЯСВІЖЧЫНЕ АДКРЫТЫ ПОМНІК.

*ВЫЙШАЎ У СВЕТ ПЕРШЫ НУМАР ЧАСОПІСА «ПЕРШАЦЬВЕТ» (рэдактар А. Масарэнка). У Доме літаратара адбылася святочная прэзентацыя новага выдання. Стваральнікаў і аўтараў часопіса віталі старшыня СП Беларусі В. Зуёнак, намеснік міністра інфармацыі С. Нічыпаровіч. Выступілі і маладыя літаратары.*

*ДЭЛЕГАЦЫЯ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РБ НАВЕДАЛА ВІЛЬНЮ, дзе абмеркаваны і падрыхтаваны дагавор па культурным супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Літвой.*

*Нашы інтэрв'ю*

# БЕЛАРУШЧЫНА Ў... «ВО СЛАВУ РОДИНЫ»

***У назве мы не памыліліся. На жаль, адзіная вайсковая газета Беларусі носіць пакуль гэткую назву. І тым не менш, мы вырашылі пагутарыць з галоўным рэдактарам газеты «Во славу Родины» палкоўнікам Рыгорам Васільевічам Сакалоўскім на тэму «Беларушчына на старонках газеты».***

— За апошнія паўгода — год перамены безумоўна адбыліся істотныя. Па-першае, менавіта за гэты час газетныя старонкі загаварылі па-беларуску. Спачатку — спакваля, паціху. Адным-двума матэрыяламі ў тыдзень. Зараз — штодня. Здараецца, што па некалькі матэрыялаў друкуем на беларускай мове. Але ж хіба ў адначассе ўсё зробіш? Даём шмат матэрыялаў па вайсковай гісторыі Беларусі. Друкавалі, у прыватнасці, кароткі агляд «Забытая слава», падрыхтаваны калектывам навукоўцаў пад кіраўніцтвам вядомага гісторыка-адраджэнца Міхася Ткачова. Зараз у газеце публікуецца вялікі нарыс Станіслава Цярохіна пра Грунвальд. Прызнацца, пошту і званкі публікацыі гэтыя выклікаюць самыя разнастайныя. Шмат абвінавачванняў нават у русафобіі. Яно і зразумела. Старэйшыя пакаленні мысляць пераважна кансерватыўна, бо ветэраны вучыліся па старых сфальсіфікаваных падручніках.

**— Ці можна гаварыць аб уплыве газеты на пашырэнне беларускасці ў нашым войску наогул?**

— Тое, што газету чытаюць ва ўсіх вайсковых калектывах — гэта зразумела. Мы імкнёмся, каб цераз газету афіцэры, салдаты далучаліся да роднай мовы. Частая з'ява на нашых старонках — тэматычныя выпускі «Паходні». У выпусках расказваем пра беларускі фальклор, народныя традыцыі, змяшчаем кароценькія руска-беларускія ці беларуска-рускія слоўнічкі.

Апошнім часам большасць публікацый пра беларускую культуру, літаратуру ў газеце друкуюцца па-беларуску. І гэтыя матэрыялы выклікаюць рэзананс. Ужо і пішуць многія да нас на роднай мове. Дасылае свае беларускія вершы, напрыклад, падпалкоўнік Алесь Дзергачоў. З цікавасцю пазнаёміліся з паэтычнымі творамі курсанта Менскага вышэйшага ваеннага каманднага вучылішча Алеся Запольскага. Вось чатырохрадкоўе з яго ліста:

Нясуцца да волі блакітныя
хвалі,
Імкнуцца за імі маркотныя
дні,
Як трапіць пан Нёман ў
замежныя далі,
То помніць ён добра свае
карані.

Праўда, у гэтых радках ёсць пэўныя творчыя хібы. Але ж якая шчырасць, якое жаданне захаваць сваю еднасць з Беларуссю! І мы верым, што такіх, як Алесь Запольскі, у вайсковых калектывах шмат. За імі — будучыня.

**— І ўсё ж ствараецца ўражанне, што ў тых ці іншых накірунках беларускага Адраджэння газета змагла б зрабіць куды больш...**

— Не магу не пагадзіцца з Вамі. Але ж тут ёсць пэўныя аб'ектыўныя прычыны. Прызнацца, нам цяжка знайсці прафесійных аўтараў на глыбокую распрацоўку тых ці іншых тэм. Уявіце сабе, колькі часу, нерваў, сіл займае падрыхтоўка грунтоўных, няхай сабе і папулярных, гістарычных матэрыялаў. А што мы можам прапанаваць узамен, калі ганарарны фонд аднаго нумара газеты складае ўсяго 230 рублёў?! Смешна проста...

Дадайце нашы сціплыя тэхнічныя магутнасці... Матрыц з беларускімі літарамі ў нас не хапае. І гэта ў штодзённай рэспубліканскай газеце! Але ж, канешне, усе гэтыя праблемы не здымаюць з нас адказнасці за вяртанне ў войска роднага слова, беларускай культуры. Таму і запрашаем да супольнай працы пісьменнікаў, творчую інтэлігенцыю рэспублікі, і гісторыкаў, навукоўцаў самых розных спецыяльнасцей і накірункаў. Спадзяёмся на вашу падтрымку, шаноўнае спадарства!

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**




*Рубрыку вядзе*
**Лявон БАРШЧЭЎСКІ**

Вялікі нацыянальны паэт Шатландыі Роберт Бёрнс (1759—1796) за сваё нядоўгае жыццё паспеў дасягнуць вяршыняў у самых розных паэтычных жанрах — ад любоўнай лірыкі да дасціпных вершаў-гумарэсак.

*Роберт БЁРНС*

## У ГАРАХ МАЁ СЭРЦА

Не тут маё сэрца — блукае ў гарах,
Імчыць за аленем на дзікіх вятрах,
Пільнуе казулю і цвеліць жуду,
Ў гарах маё сэрца — куды ні пайду.

Бывай, мая поўнач, сустрэнемся зноў,
Край годных, радзіма адважных сыноў,
Куды б валацужніцкі лёс ні занёс,
Шатландыі схілы вышэй ад нябёс.

Бывайце, вяршыні — прытулак снягоў,
Бывайце, зялёныя плыні лугоў,
Бывайце, лясы над абрывамі стром,
Бывайце, патокі, дзе пасвіцца гром.

Не тут маё сэрца — блукае ў гарах,
Імчыць за аленем на дзікіх вятрах,
Пільнуе казулю і цвеліць жуду,
Ў гарах маё сэрца — куды ні пайду.

**Пераклад з англійскай Рыгора БАРАДУЛІНА.**

## ФІНДЛЕЙ

— Хто гэта грукае ў акно?
— Хто ж, гэта я — Фіндлей!
— Ідзі дамоў. Тут спяць даўно.
— Не ўсе! — сказаў Фіндлей.

— Як ты асмеліўся будзіць?
— Ды так,— сказаў Фіндлей.
— Каты марцоваму карціць...
— Карціць! — сказаў Фіндлей.

— Не адчыню — і не прасі...
— Прашу! — сказаў Фіндлей.
— Ты ж спаць да пеўняў не дасі.
— Не дам! — сказаў Фіндлей.

— Пусціць, а што, калі радня?..
— Пусці! — прасіў Фіндлей.
— Дык ты ж завалішся да дня.
— Да дня! — сказаў Фіндлей.

— Такога толькі прыручы...
— Так-так! — сказаў Фіндлей.
— Ты ў нас і будзеш штоначы.
— І ўдзень! — сказаў Фіндлей.

— Смала! Ну лезь. Дапамагу.
— Хутчэй! — сказаў Фіндлей.
— Глядзі ж, нікому ні гу-гу!
— Угу! — сказаў Фіндлей.

**Пераклад з англійскай Язэпа СЕМЯЖОНА.**

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 5–47).*

Чаму так сталася? Ці гэта кара Божа за нашу сціпласць і лагоднасць, за тое, што ніколі чужога мы не захапілі, нідзе нічыіх правоў не нагвалцілі, самабытнасці другіх народаў не зняважылі? Ці мо такім чынам расплачваемся за нашу гасцінасць і адкрытае сэрца, за цярпімасць (талерантнасць) да адметнасці чужых думак і паводзін? Чаму?

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# З «падпольнай» кнігі

Чаму мацнейшыя так хутка і бессаромна выкарыстоўваюць нашу часовую кволасць?

Чаму на цябе, Мова, першы замах? Ці тыя, хто хацеў бы нас праглынуць цалкам, робяць гэта свядома ці інтуітыўна, пачаўшы менавіта з цябе?

Варта было б прыгадаць лёс некаторых нашых суседаў... Яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя, калі раздзёртая Польшча знаходзілася ў палоне (паводле выразу К. Маркса) «трох разбойнікаў з вялікай дарогі», вядомы дзеяч польскай культуры Юльян Урсын Нямцэвіч падкрэсліваў, якое рашаючае месца займае мова ў лёсе нацый. Вось што наконт гэтага ён сказаў:

«Мова — аснова нацыі, ці больш дакладна — уяўляе сабою адрозненне нацыі ад нацыі. Калі толькі сціраецца родная мова — гіне імя Бацькаўшчыны... Ніводзін народ не мае большай патрэбы стаяць на варце супраць гэтай пагрозы, як мы, палякі».

І нягледзячы на жорсткую дэнацыяналізацыю з боку іх суседзяў, палякі здолелі захаваць сваю мову, а пасля адраджэння іх дзяржаўнай незалежнасці зрабіць яе пануючай нават са шкодай тых славянскіх меншасцей, якія, прынесеныя ў ахвяру палітычным інтарэсам вялікіх дзяржаў, апынуліся ў межах міжваеннай Польшчы.

Польскі ўрад поўнасцю выкарыстаў усе адміністрацыйныя рычагі, каб «аднямечыць» тую частку польскага насельніцтва, якая, будучы ў складзе колішняй Прусіі, пачала адмаўляцца ад роднай мовы. Такім чынам ён (урад), згодна з прынцыпам дзяржаваствaральных працэсаў навейшага часу: «Не нацыя ствapae дзяржаву, а дзяржава нацыю»,— выканаў сваю гістарычную місію, вярнуўшы Польшчы яе страчаных дзяцей...

Такую ж пазітыўную ролю ў стварэнні нацыянальнай свядомасці беларусаў адыграў у 20-ыя гады ўрад Беларускай Савецкай Рэспублікі, узнікшай амаль сумесна з адраджэннем польскай дзяржаўнасці. Так званая каранізацыя адміністрацыйнага апарату ці беларусізацыя грамадска-палітычнага і культурнага жыцця рэспублікі знаходзіла падтрымку як цэнтральных улад Савецкай дзяржавы, так і яе культурных устаноў. Здзейснілася такім чынам ленінская нацыянальная палітыка ў плане падтрымкі беларускага адраджэння з боку больш моцных нацый, перад усім — вялікага рускага народа.

Нарушэнне ленінскіх прынцыпаў сацыялістычнай законнасці, якое вылілася ва ўмовах Беларусі ў паляванне на нацдэмаў, абязвечыла працэс развіцця і паглыблення самасвядомасці беларусаў. Абяскроўленая беларуская культура пачала ажываць толькі ў пасляваенныя гады. Аднак неспрыяльныя ўмовы культу асобы прадаўжалі лажыцца ценем на працэс беларускага адраджэння. Спроба бараніць сваё, самабытнае, дастасаваць яго да патрэб сацыялістычнага будаўніцтва адвяргалася як спроба ўваскрашэння так званай «нацдэмаўшчыны». Лёгка і беспадстаўна вешаліся **ярлыкі «нацыяналізму»** на тых, хто стойка трымаўся матчынай мовы. Партызаншчына, якая заліла амаль увесь адміністрацыйны апарат, свае метады вырашэння праблем перанесла і на кіраванне галіной нацыянальнай культуры.

Забітаму спрадвечным горам, стомленаму вайной і нястачамі, беларускаму народу было абыякава, як вырашаецца пытанне беларускага адраджэння. Пакарміцца б удоваль, выбіцца б у людзі, стварыць як найлепшыя ўмовы для сваіх дзетак і не паўтарыць лёсу іх гаранашных дзядоў — дамінавала над патрэбай захавання нацыянальнай самабытнасці. Пытанні нацыянальнай мовы, дзіцячага сада, школы, друку адыходзілі на другі план. Закаранелае ў сялянскіх душах пачуццё «комплексу ўласнай непаўнацэннасці» стала саюзнікам тых, хто ўсюды дэманстраваў больш моцную і больш выгадную культуру пануючай нацыі. Імкненне дацягнуцца да яе, палепшыць свой побыт, закончыўшы вышэйшую навучальную ўстанову на нярoднай мове, прывяло да **татальнага** адмаўлення ад беларускай мовы.

Тэарэтыкі, узброіўшыся некаторымі яшчэ да канца не распрацаванымі палажэннямі «мовазнаўчых прац» вялікага правадыра, абаснавалі прагрэсіўнасць гэтага працэсу. У выніку пачалі надштурхоўваць яго так, што спроба ўзяць пад абарону родную мову стала дараўноўвацца да рэакцыйных поглядаў або пачало зноў пашырацца беспадстаўнае абвінавачванне ў нацыяналізме. Зноў павеяла цвілым пахам 30-ых гадоў... Сяды-тады практыкуецца паляванне на чараўніц... «нацдэмаўшчыны».

Каб спыніць ненармальную з'яву ў нашым жыцці, лічу неабходным правесці наступнае:

1) На варце стварэння спрыяльных умоў для прадаўжэння яшчэ незакончанага працэсу беларускага адраджэння і далейшага развіцця беларускай мовы і культуры павінны стаць кіруючая партыя і сам урад БССР.

2) Беларуская мова ў рэспубліцы **павінна стаць** дзяржаўнай нароўні з рускай (і не толькі дэкларатыўна).

3) **Не рабіць ніякіх перашкод** у прапагандысцкай і арганізацыйнай рабоце на карысць беларускай мовы.

4. Вышэйшыя навучальныя ўстановы **абеларусіць** і стварыць лепшыя шансы пры паступленні ў спецыяльныя школы для тых, хто закончыў беларускія школы.

5) Прыняць закон, які будзе забараняць усялякае зневажанне беларускай мовы і ўсіх тых, хто ёю карыстаецца.

Ажыццяўленне гэтых умоў будзе садзейнічаць умацаванню ў насельніцтве рэспублікі сапраўднага сацыялістычнага патрыятызму і трывалай дружбы беларускага народа з усімі братнімі народамі.

*Чыталі?*

# Аўтары — маці і сын

Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», якім кіруе Ян Чыквін, выдала ў Беластоку кніжку «Маці і сын». Пад вокладкай — раней невядомыя вершы Ларысы Геніюш і паэтычныя абразкі яе сына Юркі Геніюша.

Вершаваная падборка Ларысы Геніюш названа «Сэрца». Добрая назва, бо ўсе вершы тут сапраўды напісаны ад шчырага сэрца, з вялікай любоўю да Беларусі, яе людзей, з любоўю да нашай роднай зямлі.

Уступнае слова «Яна лічыла сябе яцвяжкай» да вершаў слыннай паэткі зрабіла Данута Бічэль-Загнетава, якая напісала: «Ларыса Геніюш і яе хата, як сонейка, прыцягвалі ўсё яшчэ жывое на Беларусі — пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў, сялянак. І ўсе бітыя, пакрыўджаныя, параненыя знаходзілі той ганак удзень і ўночы, стукалі ў сенцы, не зважаючы на суседку, якая бяссонна стаяла на варце ў суседніх дзвярах. Іх там кармілі, адпойвалі, суцяшалі словамі...»

Сапраўды так, бо толькі сэрцам можна напісаць радкі:

Не хачу быць дома эмігрантам!
Гаспадыня тут я — а ня госьць!
Гаварыць на дзікім «эсперанта»,
Калі мова матчыная ёсьць?!

Трыццаць дзевяць невядомых раней вершаў Ларысы Геніюш увайшлі ў беластоцкі зборнік «Маці і сын». Кожны радок і кожная страфа яе вершаў адметныя тым, што яны трывала прывязаны да родных ніў, родных беларускіх хат, дзе спрадвечна і нязгасна жывуць лепшыя традыцыі і звычаі беларусаў.

Ларыса і Юрка Геніюшы амаль усё жыццё жылі ў ростані. Сустракацца выпадала рэдка. І гэта добра, што пад адной вокладкай, пад адным літаратурным дахам сышліся яны — маці і сын.

Падборка Юркі Геніюша мае назву «Да свету». Яе напісаў Сакрат Яновіч. Прадмова невялікая, але шчырая і простая: «Юрка Геніюш пісаў мала, няшмат пакінуў у спадчыну існа літаратурных твораў. Больш займаўся публіцыстыкай, якая, як вядома, рэдка вытрымлівае выпрабаванне часам. Засталося па ім — колькі вершаў, нізка паэтычнай прозы, трохі апавяданняў, некалькі п'ес (для дзіцячай сцэны перш за ўсё)...»

Талент Юркі Геніюша больш праявіўся ў паэтычнай прозе. Менавіта яна ў асноўным і прадстаўлена ў гэтай кнізе. Яго маленькія розныя па тэматыцы лірычныя абразкі чытаюцца лёгка, зразумелыя ўсім. Сюды, праўда, увайшло і некалькі вершаў, якія напісаны на фальклорна-міфалагічнай аснове.

Шмат можна пісаць і разважаць над творамі Геніюшаў. Але хочацца проста шчыра і сардэчна падзякаваць беларускім літаратарам з Беласточчыны за добрую кніжку твораў тых, каго мы любім і цэнім. Такое выданне ў гісторыі беларускай літаратуры ажыццёўлена ўпершыню, бо гэта ж вялікая рэдкасць — пад адною вокладкаю выдаць творы маці і сына.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

г. Слонім.

# Беларускі слоўнік па інфарматыцы

**Старшыня Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны прафесар Мікола Савіцкі падрыхтаваў «Руска-беларуска-англійскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы». Гэта фактычна першы крок у распрацоўцы беларускіх найменняў, тэрмінаў самага шырокага абсягу інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі.**

**Слоўнік, выпушчаны малым прадпрыемствам «Гаспад», разлічаны на шырокае кола чытачоў: вучняў і настаўнікаў, студэнтаў і выкладчыкаў, навукоўцаў, практыкаў праграмавання і спецыялістаў апрацоўкі інфармацыі.**

А. К.

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—47).*

— Мы едзем у паліцыю? — запытаўся я ў Мандана, не пазнаючы дарогі.

— Не.

— Дык вы ж казалі, што мы сустрэнемся ў яго ў кабінеце.

— Правільна: у адным з яго кабінетаў.

— Колькі іх у яго?

— Некалькі...

Кабінет, на сустрэчу ў якім мы ехалі, месціўся на чацвёртым паверсе васьміпавярховага будынка...

Адчыніўшы дзверы, Рыс усміхнуўся нам, аднак не сказаў ні слова. Уэбэр сядзеў за сталом і курыў.

— Я думаю, вам няцяжка было дабрацца сюды, — сказаў галоўны інспектар.

— Зусім не,— адказаў Мандан.

Рыс зачыніў дзверы і падышоў да нас.

— Сядайце,— сказаў ён.

— Я вырашыў, што нам лепей сустрэцца тут,— прадоўжыў Уэбэр.— Дык што ў вас за ідэя, Мандан?

— Перш чым усё расказаць, трэба адзначыць, што мы не так проста прыйшлі да яе. Справа, якую мы задумалі,— небяспечная, але мы ўпэўнены, што ўсё закончыцца выдатна.

— Калі інспектар будзе з намі супрацоўнічаць,— сказаў я.

Уэбэр кінуў на мяне позірк.

— Узброены напад? — запытаўся ён у Мандана.

— Але.

— На каго?

— На інкасатараў Ромэра.

— Інкасатараў Ромэра? — паўтарыў ён, зірнуўшы на Рыса.— А чаму вы выбралі іх?

Мандан пацiснуў плячыма.

— У іх капусты багата!..

— І нават вельмі,— сказаў Уэбэр,— але ніхто ніколі на іх не нападаў. І ведаеце, чаму? Таму што немагчыма абчысціць іх без рэвальвера...

— Вы што, думаеце, вы першыя, хто падумаў пра гэта? — умяшаўся Рыс.

— Мы будзем першыя, хто гэта зробіць,— сказаў я.

— Падумайце трохі,— сказаў Уэбэр.— Калі вас напаткае няўдача, вы адседзіце палову жыцця.

— А стрэлаў не будзе,— удакладніў я.— Ва ўсякім разе, перастрэлкі. Гэта я вам гарантую.

— Дык як вы іх возьмеце? — усміхнуўся Уэбэр.— Загіпнатызуеце?

— Вось тут і пачынаецца ваша супрацоўніцтва. З вашай дапамогаю мы можам іх гіпнатызаваць.

— У чым заключаецца дапамога? — спытаўся Рыс.

— Нам патрэбныя вашыя уніформы і адна патрульная машына...

— Вы збіраецеся пераадзецца ў паліцэйскіх? — спытаўся Уэбэр.

— Але.

— Ваш сябра — жартаўнік,— сказаў Уэбэр Мандану.

— Я яшчэ раз кажу вам: страляніны не будзе,— паўтарыў я.— Калі вы дадзіце нам тое, што я папрасіў, мы абчысцім іх без гвалту... Нам патрэбныя толькі адна машына аўтаінспекцыі, некалькі уніформ і два паліцэйскія ў дапамогу.

— Не, Мандан,— пачаў ужо злавацъ Уэбэр,— давайце канчаць. Вы ж цудоўна ведаеце, што ў мяне нагадненне з Ромэрам.

— Калі вы будзеце зыходзіць з гэтага,— сказаў я,— то мы ніколі не знойдзем кліента. Вы не хочаце, каб мы нападалі на банкі, на ўстановы, якімі займаецца федэральная паліцыя, на аб'екты, з уладальнікамі якіх вы маеце нагадненне. Дык што ж тады нам застаецца? — Вы хоць уяўляеце, што будзе, калі інкасатары скажуць яму, што на іх напалі паліцэйскія? Як вы думаеце, да каго ён тады прыйдзе?.. Што гэты малады чалавек фантазіруе, я яшчэ разумею, але, прабачце, вы, Мандан...

— Паслухайце, інспектар,— абсек я яго.— З чаго вы ўзялі, што інкасатары будуць расказваць, хто на іх напаў?

Дальбог, яны ўсё яшчэ нічога не разумелі.

— Вядома, будуць. Трэба ж ім будзе нешта сказаць. Вы можаце, дапусцім, падкупіць аднаго чалавека, нават двух, але ўсіх чатырох вы не падкупіце...

— Мы заткнём ім рот усім чатыром, не купляючы,— сказаў я.

Нарэшце і Уэбэр, і Рыс нешта зразумелі. Яны пераглянуліся, запала цішыня.

— І як вы думаеце гэта зрабіць? — спытаўся Уэбэр.

— Вельмі проста,— адказаў я.— Адзіная цяжкасць — зрабіць усё так, каб ні машына, ні іхнія целы не былі знойдзены і апазнаны. Над гэтым трэба крыху паламаць галаву, але я ўжо сёння што-небудзь прыдумаю.— У Рыса ажно дыханне перахапіла. Вусны Уэбэра збялелі.— Абяцаю вам, інспектар, што не вазьмуся за справу да тае пары, пакуль усё не будзе абдумана так, каб усё было зроблена чыста, без аніякіх слядоў.

— Чатыры чалавекі знікаюць раптам,— ціха сказаў ён.— Думаю, шум усё роўна будзе.

— Шум — не доказ,— умяшаўся Мандан.

— Калі ўсё будзе зроблена так чыста, як ён кажа,— сказаў Рыс,— ніхто і праўда нічога не зможа даказаць.

Я кіўнуў галавою і здзіўлена зірнуў на Уэбэра: я ж ужо лічыў, што ён няздатны выказаць сваю асабістую думку. Уэбэр утупіўся ў стол. Думаў.

— Я выдатна разумею, інспектар,— прадоўжыў я,— што ў гэтай справе любое падазрэнне на нас абернецца падазрэннем на вас. Але ніхто і не падумае падазраваць каго-небудзь. Інкасатары знікнуць — і ўсё. Ромэр, можа, будзе думаць, што яны змыліся з бабкамі...

— Ніколі ў жыцці...

— А чаму? Так часта бывае.

— Колькі, вы думаеце, у іх грошай?

— Сама меней пятнаццаць штук,— сказаў Мандан.

— Ды вы што?! — усклікнуў Уэбэр.— Прыкончыць чатырох чалавек з-за пятнаццаці штук!..

— Калі вы глядзіце на гэта вачыма бухгалтара, — сказаў я,— дык згадайце пра іхні «Б'юік». Ён таксама павінен знікнуць. А ў наш час такая тачка каштуе нашмат болей за гэтых чатырох гаўрыкаў.

Уэбэр паглядзеў на Мандана і ўздрыгнуў.

— Паслухайце,— не вытрымаў я,— дык якую тады працу можаце вы нам прапанаваць? Пачысціць касу ў забягалаўцы на рагу? Паставіць бензакалонку? Ці сцібрыць кашалёк у якой-небудзь старой?

— Гэта ўжо ваш клопат,— агрызнуўся ён.— Вы паглядзіце: у гэтага махляра-няўдаліцы адна песня — мачыць людзей...

— А вы раптам праведнікам сталі! — не выцерпеў я.

— Спакайней! — сказаў Джынкс.

— Ну што вы! — прыўзняўся Мандан.

— Заткніцеся! — прадоўжыў я, гледзячы Уэбэру ў самыя вочы.— Я — няўдаліца? Хто з нас на кім апёкся? Я такі ж прафесіянал, як і вы. І пляваў я на гэтых тыпаў, як плюеце вы на любога, каго спачатку абуваеце, а потым мочыце, каб не здаў вас...

Твар Уэбэра палаў нянавісцю. Рыс схапіўся за рэвальвер.

— Перастаньце разыгрываць камедыю, ідыёт! — засмяяўся я, павярнуўшыся да Рыса.

— Выведзіце гэтага шаленца, Мандан,— сказаў Уэбэр.— Астудзіце яму крыху галаву...

— Хадзем, Ральф,— сказаў Мандан. Ён быў відавочна занепакоены.

— Поль,— паправіў я.

— Добра, Поль, прашу вас, хадзем...

— Хвілінку! Сядайце, Мандан, і слухайце.— Я зноў загаварыў з Уэбэрам.— Чаму вы такі ўпарты? Я зусім не збіраюся псаваць вашых адносін з Ромэрам. Я не горш за вас ведаю казку пра курку, якая несла залатыя яйкі. Я прапаную вам зрабіць напад пры адной неадменнай умове: машына і людзі знікаюць раз і назаўсёды...

— Жыццё ў гэтым горадзе,— пачаў Уэбэр,— заўсёды было спакойнае. У нас ніколі не здаралася ніякіх гісторый. Мы ўсе ў добрым паразуменні: пракурор, мае людзі, карацей, усе. Газеты нас не чапаюць, ніхто не патрабуе ніякіх перамен, і мы даражым гэтым — так што не трэба зводзіць сяброў ілбамі...

— Прашу вас, інспектар,— сказаў я,— зразумейце мяне. Такая ідылія заміло̀ўвае і мяне, і я не збіраюся яе парушаць. Вас непакоіць адно: як зрабіць усё так, каб машына вашага сябрука Ромэра з ягонымі кадрамі знікла бясследна. Ці ж не так?

— Рана ці позна нехта іх знойдзе. Гэта непазбежна.

— Калі ёсць хоць найменшая небяспека, што так здарыцца, я адмаўляюся ад ідэі. Падкрэсліваю: нават калі захоўваецца мінімальная рызыка. І вы тут будзеце адзіным арбітрам.

— Як вы збіраецеся гэта зрабіць? — спытаўся Рыс.

— Я яшчэ не маю плана. Дайце мне падумаць да заўтра. Вы не супраць? — прадоўжыў я наступ на Уэбэра.

— Я думаю. І прашу вас: перад тым як рабіць што-небудзь, узгадніце ўсё са мною.

— Вядома. Да пабачэння,— запаліў я цыгарэту і ўстаў.

Рыс правёў нас да дзвярэй.

— Як вы прабавілі вечар з Холідэй? — запытаўся я ў яго. Ён не сказаў ні слова, і я прадоўжыў: — Вам трэба патэлефанаваць ёй. Яна багата чаго распавядзе вам: імёны, адрасы і шмат што іншае...

— Куды вас адвезці? — запытаўся ўжо ў машыне Мандан.

— Я хацеў бы вярнуцца дамоў і забраць Холідэй.

— Навошта?

— Каб адзначыць з музыкай яе новы статус ўдавы... Паехалі туды, дзе мы іх падабралі,— сказаў ён негру.

Музыка была для мяне залішне саладжавая, але рытмічная.

Метрдатэль правёў нас за столік побач з аркестрыкам.

— А ў вас няма нічога далей ад музыкаў? — спытаўся я.

— Не, пан. На жаль, пакуль што няма... Можа, крыху пазней... — Ён падсунуў Холідэй крэсла і паклаў перад кожным меню. Падышоў афіцыянт і пачаў раскладваць прыборы.

— Мы ўжо вячэралі,— сказаў я.

Афіцыянт сабраўся забраць сурвэткі. Я сказаў яму пакінуць іх. Афіцыянт паглядзеў на метрдатэля і пакінуў сурвэткі на стале.

— Я, бадай, з'ем сандвіч,— сказала Холідэй.— І вып'ю віскі з кока-колай.

— Віскі з кока-колай? — здзівіўся я.— Нішто сабе сумесь...

— А мне хочацца!

— Добра. Хочацца дык хочацца. Сандвіч і віскі з кока-колай для пані,— сказаў я афіцыянту.— А мне каньяку. Хочаце што-небудзь з'есці? — спытаўся я ў Мандана.

— Дзякую,— адказаў ён.— Вып'ю кавы.

Афіцыянт адышоў...

— Хочаш танцаваць? — спытаўся я ў Холідэй.

Яна кіўнула.

Холідэй танцавала цудоўна.

— А ты выдатна танцуеш,— сказаў я ёй.

— Дзякуй,— адказала яна. Было відаць, што ёй гэта прыемна чуць.— Ты таксама... Што ў цябе было з Уэбэрам? Усё нармалёва?

— Калі кірую я? Не вярзі лухты...

Ужо за сталом, калі мы з Холідэй ледзь толькі чокнуліся, я раптам зразумеў, што ведаю, як можна бясследна пазбавіцца ад «Б'юіка» з інкасатарамі. Я адразу ж паставіў шклянку на стол і ўзняўся.

— Выбачайце,— сказаў я. І Мандан і Холідэй былі настолькі здзіўленыя, што нават не запыталіся ў мяне ні аб чым.

Я выйшаў у вестыбюль, адшукаў тэлефонную кабіну, набраў нумар гаража Мэйсана і запытаўся, ці на месцы Мэйсан.

— Ён выйшаў,— адказалі мне.

— А вы ведаеце, дзе ён?

— Не. А хто яго пытаецца?

— Поль Мэрфі. Гэта ты, Нэльс?

— Я.

— Слухай, Нэльс, дык ты што, праўда не ведаеш, дзе можна знайсці Мэйсана?

— Ён можа быць у «Персідскім каце».

— Дзякуй.

Я знайшоў у даведніку нумар гэтага самага «Персідскага ката», патэлефанаваў туды. Чалавек сказаў мне, што Мэйсана яшчэ не было, але ён можа прыйсці. Я падзякаваў, павесіў трубку і вярнуўся ў залу.

Холідэй і Мандана за сталом не было. Афіцыянт паклаў перада мною рахунак:

— Пан і пані сказалі, каб вы разлічыліся, пан.

— А дзе яны?

— Пайшлі.

— Куды?

— Яны мне нічога не сказалі.

— Назусім, можа?

— Відаць. Яны хутка сабраліся...

— Добра,— пацiснуў я плячыма.— Гэтага хопіць? — паклаў я на рахунак дзесяць долараў.

— Вядома, пан. Вялікі дзякуй.

Я выпіў каньяк і выйшаў. На вуліцы запытаўся ў парцье:

— Вы бачылі, як некалькі хвілін назад выходзілі мужчына сярэдняга ўзросту і прыгожая дзяўчына? Яны павінны былі сесці ў зялёны «Крайслер», і шафёр у іх негр.

— Тыя, што прыйшлі сюды з вамі? Але, пан, яны выйшлі хвіліну назад.

— Куды яны паехалі, не можаце сказаць?

— Не, пан.

— Можаце выклікаць мне таксоўку?

Ён свіснуў, пад'ехала таксоўка.

«Пайшлі яны к чорту»,— падумаў я, сядаючы.

— Куды ехаць, пан? — запытаўся ў мяне шафёр.

— Да «Персідскага ката».

Ён паглядзеў на мяне з відавочнай цікавасцю. Я падумаў, што шафёр не зразумеў мяне.

— Вы ведаеце, дзе гэта — «Персідскі кот»?

— Ведаю, пан,— адказаў ён.

«Персідскі кот» знаходзіўся ў самым цэнтры квартала складоў, заціснуты паміж вялізнымі змрочнымі будынкамі з чырвонай цэглы. Вуліца, на якой ён месціўся, была таксама змрочная і пустынная. Я заплаціў шафёру і прайшоў у шынок. Вестыбюль быў малюпасенькі, драпіраваны тканінаю чырвонага колеру. Дзве каляровыя фатаграфіі аголеных жанчын у натуральную велічыню: на адной кабета стаіць, на другой — ляжыць. Убачыўшы такую аздобу, я зразумеў, чаму таксіст так дзіўна зірнуў на мяне: «Персідскі кот» быў шынком педэрастаў. Я спыніўся ля ўвахода ў залу — зусім цёмную, з гнюсным пахам блакітных. Недзе ў глыбіні залы ігралі тры ці чатыры музыкі... Я задумаўся, як мне адшукаць Мэйсана ў гэтым бедламе, і тут перада мною з'явіўся чалавек, падобны да парцье, у касцюме еўнуха, з жудасна нафарбаванымі вейкамі і бровамі.

*(Працяг будзе).*

